Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР.


15 ЛІСТАПАДА 1926 г.

№ 14 (23)

---

II-гі год ВЫДАНЬНЯ

---

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

Стар

1. Часовая інструкцыя Эконом. Нарады БССР аб эксплёатацыі лясоў, якія знаходзяцца ў гарадзкой мяжы — — — — — 5

2. Пастанова Эконом. Нарады БССР аб парадку скарыстаньня сум, якія паступаюць у зварот лясных пазычак — — — — 7

3. Палажэньне аб спэцыяльным фондзе для крэдытаваньня мерапрыемстваў па індустрыялізацыі колектыўных гаспадарак — — 7

4. Пастанова НКЗ аб утварэньні паляўнічага заказьніка ў раёне Прылуцкай дачы Самахвалавіцкага раёну Менскай акругі — — 8

5. Абежнік НКЗ аб рэвізіі раённых зямельных камісій у 1926 г.— — 9

6. Правілы аб парадку надзяленьня навучальных і дзіцячых установ, якія знаходзяцца па-за гарадамі, зямельнымі вучасткамі і аб парадку карыстаньня імі — — — — — — 11

ДАДАТАК. Тыповы дагавор на перадачу вучэбным і дзіцячым культурна-асьветным установам зямельных дзялянак у іх дарэмнае карыстаньне 15

7. Абежнік НК Асьветы аб парадку прадастаўленьня пасад асобам начальніцкага складу, дэмобілізаваным з Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі — — — — — — — — 17

8. Абежнік НК Асьветы аб звальненьні ад платы дзяцей асоб, якія лічацца ўтрыманцамі органаў НК Соцыяльнае Забясьпекі, але замест грашовай дапамогі атрымоўваюць ад апошніх бясплатныя патэнты 18

9. Абежнік НК Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і НК Працы аб зьмене п. 3 абежніка свайго аб парадку дазволу звышмерных работ і аб мерапрыемствах для змаганьня з імі — — — — — 18

10. Пастанова НК Працы аб увядзеньні ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР зацьверджаных НК Працы СССР пастаноў і правіл аб парадку пабудаваньня і ўтрыманьня прамысловых закладаў — — — 19

11. Пастанова НК Працы аб падліку органамі НК Працы прынятых установамі і прадпрыемствамі рабочых і служачых у парадку добраахвотнага найманьня — — — — — — 19

12. Абежнік ВСНГ аб парадку ліквідацыі прамыслова-коопэрацыйных арцелей (Таварыстваў) — — — — — — 20

Стар.

Частка неофіцыйная.

13. Аб рэорганізацыі акруговых аддзелаў камунальнае гаспадаркі. Г. Рубінштэйн. — — — — — — — — 24

14. Аб дысцыплінарных пакараньнях за службовыя нарушэньні. С. Лібман. 27

15. Яшчэ да проэкту Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы. Н. Падтыкала. — — — — — — — — 29

16. Вынікі працы Камісій пры Сельсаветах (Чавускі раён Магілёускае акругі). Я. Збуржынскі. — — — — — — 31

---

# ДРУКАРСКІЯ ПАМЫЛКІ.

У Бюлетэні № 9 (18) г.г. на старонцы 89, у 13-ым радку зьверху надрукавана: „почему алименты не могут быть взыскиваемы с имущества...“; трэба замяніць словамі: „почему алименты и могут быть взыскиваемы с имущества...“

На-тэй жа старонцы ў радку 3-ім зьнізу надрукавана: „мука-примока“; трэба замяніць словамі: „мужа-примака“.

---

*Частка афіцыйная.*

## 1. Часовая інструкцыя Экономічнае Нарады БССР

### АБ ЭКСПЛЁАТАЦЫІ ЛЯСОЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ГАРАДЗКОЙ МЯЖЫ.

У разьвіцьцё арт. 22 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох, выдаецца наступная інструкцыя аб эксплёатацыі лясоў, якія знаходзяцца ў гарадзкой мяжы.

1. Лясныя плошчы, якія ўвайшлі ў плян гарадзкога адводу і адносяцца да катэгорыі гарадзкіх лясоў, перадаюцца Камунальным аддзелам Гарадзкіх Саветаў па асобных актах ляснымі органамі Народн. Каміс. Земляробства па зацьверджаньні ва ўстаноўленым парадку гарадзкой мяжы. У акце адзначаецца, на падставе якога проэкту адмежаваньня перадаецца лес, плошча перададзеных вучасткаў, месцаразьмеркаваньне іх, назва дач і апісаньне межаў, вызначаных па пляну. Акт падпісваецца ўпаўнаважаным Народн. Каміс. Земляробства, перадаўшым лес і Камун. Аддзелам прыняўшым яго.

2. Галоўныя асновы вядзеньня лясное гаспадаркі ў лясных дачах і вучастках, перадаваемых Камун. Аддзелам, наступныя:

а) Кіраўніцтва ляснымі плошчамі, ахова іх належыць да абавязкаў Камун. Аддзелаў.

б) Пляны лясное гаспадаркі і гаспадарчыя пляны на лясныя дачы і вучасткі, перадаваемыя гарадом, складаюцца Камун. Аддзеламі за свой кошт. Зацьвярджаюцца складзеныя пляны гаспадаркі Народным Камісарыятам Земляробства.

в) Нагляд за правільным выкананьнем пляну гаспадаркі ўскладаецца на лясныя органы Народн. Каміс. Земляробства, якім даецца права кантролю вядзеньня гаспадаркі і справаздачнасьці па іх.

г) У гарадзкіх лясох павінна весьціся правільная паркавая гаспадарка, дзеля чаго ў двухтыднёвы тэрмін патрэбна зрабіць лесаўпарадкаваньне да зацьверджаньня складзенага пры лесаўпарадкаваньні пляну гаспадаркі, недапушчаецца карыстаньне драўнінай, апрача прыбіраньня мёртвага лесу і павалу.

д) Гаспадарка ў гарадзкіх лясох павінна ставіць перад сабою санітарна-гігіэнічныя, эстэтычныя і паказальныя мэты; у адпаведнасьці з гэтым асновай пляну гаспадаркі ў гарадзкіх лясох павінна быць не дабываньне матэрыяльных выгад, а дасягненьне вышэй памянёнага..

3. Плян лясное гаспадаркі на гарадзкія лясы прадугледжвае:

а) звароты рубкі пры паркавай гаспадарцы павінны падыходзіць да прыроднае сьпеласьці дрэў;

б) разьмер карыстаньня, дапушчаемага бяз шкоды для мэт гаспадаркі, з разьлікам па плошчы і масе;

в) спосабы рубкі і лесааднаўленьня;

г) спосабы пабочнага карыстаньня ў лясох: (касьба, пракошваньне паміж пасаднымі і пасяўнымі радамі і ў старых рэдкіх лясох (калі задзервянелая глеба), пасьба жывёлы, зьбіраньне лістоў, моху і часовае сельска-гаспадарчае карыстаньне на высечаных плошчах;

д) мерапрыемствы па дагляду за лесам;

е) мэліорацыю няўдоб'я;

ж) організацыю аховы лесу;

з) вучасткі, якія патрэбна выключыць з лесное плошчы, як: лясныя плошчы, вызначаныя паводле проэкту расплянаваньня гораду пад будынкі; вучасткі пастаяннага сельска-гаспадарчага карыстаньня, якія знаходзяцца ў розных мясцох лесу (пахаці і сенажаці па берагох рэк, канаў і ў нізкіх мясцох); нізкія месцы хоць і зарослыя лесам, але ня маючыя паркавага характару; балоты чыстыя, імховыя, а таксама зарослыя хмызьняком, калі яны ня могуць быць палепшаны шляхам мэліорацыі; наогул, усе тыя вучасткі, якія па тых ці іншых меркаваньнях патрэбна расчысьціць для іншага характару ўгодзьдзя. Эксплёатацыя зазначаных месц робіцца звычайным парадкам, гледзячы па якасьці і прызначэньню ўгодзьдзяў;

*Увага* 1. Лясныя плошчы, патрэбныя для будоўлі, высякаюцца па вызначанаму пляну і толькі па меры патрэбы.

*Увага* 2. Да зацьвярджэньня пляну гаспадаркі расчыстка лясное глебы і перавод яе ў іншы від угодзьдзяў не дапушчаецца.

і) паляпшэньне складу і росту сярэдняўзростных і маладых насадак (прыбіраньне папсаваных дрэў, сухастою і зглумленага лесу, прачыстка маладых насадак).

4. Плянам гаспадаркі можа быць прызначана высечка толькі ў тых вучастках, якія па свайму стану могуць заставацца на корані.

5. Засяваньне лесу павінна рабіцца штучным спосабам, прычым у паказаўчых мэтах павінны ўжывацца розныя спосабы вытворчасьці лясных культур, а таксама разьвядзеньне іназемных драўняных парод.

6. Пры выбары вучасткаў для высечкі належыць імкнуцца ў першую чаргу адводзіць іх у месцах, патрабуемых задачамі гаспадаркі (насадка прысад, утварэньне плашчадак і г. д.).

7. Высечаная, згодна зацьверджанага пляну гаспадаркі ў гарадзкіх лясох, драўніна ідзе ў распараджэньне Камун. Аддзелу для здавальненьня яго патрэб у драўніне. Калі будзе астача драўніны пасьля здавальненьня патрэб Камун. Аддзелу, астатняя можа быць прададзена і атрыманая ад продажу сума павінна залічацца ў мясцовы бюджэт.

8. Калі будзе весьціся гаспадарка ў гарадзкой дачы супроць вызначаных мэт па пляну, Народн. Камісарыят Земляробства ўзьнімае пытаньне аб адабраньні яе з веданьня Камун. Аддзелу.

9. У выпадку неабходнасьці скарыстаньня якой-небудзь з перададзеных гарадом лясных дач для навуковых і вопытных мэт, то яны могуць быць адабраны з веданьня Камун. Аддзелу па запатрабаваньні Народн. Каміс. Земляробства, зацьверджанаму Экономічнай Нарадай.

Старшыня Экономічнай Нарады БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі.**

14-га кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 2. Пастанова Экономічнае Нарады БССР

АБ ПАРАДКУ СКАРЫСТАНЬНЯ СУМ, ЯКІЯ ПАСТУПАЮЦЬ У ЗВАРОТ ЛЯСНЫХ ПАЗЫЧАК.

1. Паступаючыя ад насяленьня сумы ў зварот лясных пазычак, выдадзеных у 1924-25 і 1925-26 г.г., перадаюцца Беларускаму Сельска-Гаспадарчаму Банку ў асобны фонд крэдытаваньня насяленьня на патрэбы агнятрывалага будаўніцтва.

2. Сродкі з данага фонду выдаткоўваюцца паводле пляну, які ўзгоднен з Народным Камісарыятам Земляробства і зацьверджан Экономічнаю Нарадаю, на выдачу пазычак:

а) на пабудаваньне і рамонт прадпрыемстваў па вырабу агнятрывалых матар'ялаў;

б) на пабудаваньне новых і на рамонт старых агнятрывалых жылых, сельска-гаспадарчых і іншых будынкаў;

в) на наданьне агнятрываласьці існуючым драўляным будынкам.

3. Пазычкі з гэтага фонду выдаюцца на тэрмін да 8-мі год у залежнасьці ад часу і разьмеру работ і пабудоў.

4. Сумы, паступаючыя ад насяленьня ў зварот тых лясных пазычак, якія будуць выдавацца ў далейшым, пачынаючы з 1926-27 году, па сканчэньні месячнага тэрміну з дню звароту іх у Бел. Сел.-Гасп. Банк паступаюць у даход скарбу.

5. За сродкі, паступаючыя на ўтварэньне гэтага фонду, Бел. Сел.-Гасп. Банк плаціць у даход скарбу $1^1/_2\%$ па сканчэньні аднаго месяца з дня паступленьня ў Банк плацяжоў па лясных пазычках.

6. За выданыя пазычкі той, хто бярэ яе, плаціць Бел. Сель-Гасп. Банку ня больш $6\%$ гадавых, з якіх $3^1/_2\%$ адлічваюцца на карысьць Банку, а $1\%$ перадаецца на павялічэньне фонду; пры гэтым азначаныя $3^1/_2\%$ разьмяркоўваюцца паміж Банкам і яго нізавой сеткай так: $2\%$ нізавой сетцы, а $1^1/_2\%$—Бел Сел.-Гасп. Банку.

7. Адказнасьць за поўную захаванасьць фонду і за сваячасны зварот лясных пазычак у даход скарбу, а таксама нагляданьне за яго скарыстаньнем ускладаецца на Бел Сел. Гасп. Банк.

8. Беларускі Сельска-Гаспадарчы Банк павінен пасылаць Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў штогодную справаздачу аб паступіўшых і выкарыстаных сродках за кошт данага фонду.

9. Паказаны фонд можа быць зьменены або зьліквідаваны пастановаю Экономічнае Нарады.

Старшыня Экономічнае Нарады БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі.**

28 кастрычніка 1926 г.

---

## 3. Палажэньне аб спэцыяльным фондзе для крэдытаваньня мерапрыемстваў па індустрыялізацыі колектыўных гаспадарак.

1. Для ўзмацненьня колектыўных гаспадарак і ўтварэньня больш спрыяючых умоў для іх разьвіцьця, пры Беларускім Сельска-Гаспадарчым Банку ўтвараецца спэцыяльны фонд для доўгатэрміновага льготнага крэдытаваньня мерапрыемстваў, накіраваных да індустрыялізацыі колектыўных гаспадарак.

2. Фонд, які складаецца, будзе зьяўляцца сталым фондам для крэдытаваньня як існуючых, так і новых прадпрыемстваў, організуемых у колектыўных гаспадарках.

3. Азначаны фонд складаецца: а) з сум атрыманых за маемасьць, перадаваемую Народным Камісарыятам Земляробства колектыўным гаспадаркам па ўмовах; б) з адлічэньняў з прыбыткаў Сельскіх Саюзаў і Сельска-Гаспадарчых Банкаў па пастанове агульных сходаў пайшчыкаў гэтых організацый; в) з спэцыяльных бюджэтных асыгнаваньняў па пастановах Савету Народных Камісараў і г) з іншых крыніц.

4. Разьмер фонду ўстанаўляецца Беларускім Сельска-гаспадарчым Банкам па ўзгадненьні з Народным Камісарыятам Земляробства і Беларускім Саюзам с.-г. аб'яднаньняў і зацьвярджаецца Экономічнаю Нарадаю.

5. Пазычкі з азначанага фонду выдаюцца колектыўным гаспадаркам выключна на пабудаваньне, капітальны рамонт і абсталяваньне вытворчых прадпрыемстваў на тэрміны ад 3-х да 10 гадоў у залежнасьці ад характару і назначэньня прадпрыемства, з 5% гадавых, з якіх 3% ідуць на пакрыцьцё выдаткаў установаў сельска-гаспадарчага крэдыту, а рэшта 2 проц. залічаюцца ў фонд.

6. Крэдыты з фонду павінны скарыстоўвацца па простаму прызначэньню, у іншым выпадку ўстановам сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту даецца права спагнаньня пазычак да тэрміну.

У зьвязку з гэтым установам сельска-гаспадарчага крэдыту для ўстанаўленьня правільнасьці скарыстаньня выдадзеных з фонду пазычак, даецца права рабіць адпаведныя абсьледаваньні пазычкоўцаў.

7. Сумы, якія ідуць у зварот выдадзеных з фонду пазычак, пераходзяць на папаўненьне фонду.

8. Аб паступіўшых на ўтварэньне фонду сумах і аб іх скарыстаньні Беларускі Сельска-Гаспадарчы Банк дае Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў гадавую справаздачнасьць і копію Народнаму Камісарыяту Земляробства.

9. Адказнасьць за захаваньне фонду ўскладаецца на Беларускі Сельска-Гаспадарчы Банк.

10. Ліквідацыя фонду робіцца толькі з санкцыі Савету Народных Камісараў, каторы і ўстанаўляе парадак ліквідацыі.

11. У разьвіцьцё гэтага палажэньня Беларускі Сельска-гаспадарчы Банк, па ўзгадненьні з Народным Камісарыятам Земляробства, Народным Камісарыятам Грашовых Спраў і Беларускім Саюзам Сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў выдае адпаведную інструкцыю.

Старшыня Экономічнае Нарады БССР **М. Карклін**.

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі.**

29 кастрычніка 1926 г.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ УТВАРЭНЬНІ ПАЛЯЎНІЧАГА ЗАКАЗЬНІКА Ў РАЁНЕ ПРЫЛУЦКАЙ ДАЧЫ САМАХВАЛАВІЦКАГА РАЁНУ МЕНСКАЙ АКРУГІ.

Народны Камісарыят Земляробства, разгледзеўшы хадайніцтва Беларускага Коопэрацыйна-Прамысловага Саюзу Паляўнічых за 31 сьнежня 1925 г. № 1082 аб утварэньні паляўнічага заказьніка ў раёне Прылуцкай дачы, а таксама адносьнікі Менскага Акруговага

Выканаўчага Камітэту за 8/X 1926 г. № 13509/1381 і Менскага Акруговага Інспэктара Лясоў за 2/X 1926 г. № 899, ПАСТАНАЎЛЯЕ: утварыць паляўнічы заказьнік і забараніць на тры гады ад гэтага дня паляваньне ўсякае дзічыны і птушак ў раёне Прылуцкай лясной дачы Самахвалавіцкага раёну Менскае акругі, залічыўшы ў гэты заказьнік усе лясы і сельска-гаспадарчыя землі агульнай плошчаю каля 3270 гэктараў. Граніцамі заказьніка зьяўляюцца: з паўдзённага боку землі хутароў: Чаркасы і Васілеўшчына, з паўночна-заходняга боку землі вёскі Скарынічы, м. Прылуцкая Слабада, з паўночнага боку—землі хут. Казімірава, Казіміраўская дача і землі вёскі Азерцы, з заходняга боку землі вёскі Воўчкавічы, савецкай гаспадаркі Воўчкавічы да Стара-Койданаўскага тракту і далей па дарозе з г. Менску да м. Койданаў да 13 кварталу, затым землі вёскі Слабодкі да зямель хут. Чаркасы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька**.

Начальнік Лясное Ўправы НКЗ **Воўкаў**.

Загадчык Аддзелу Эксплёатацыі **Я. Сядашаў**.

26 кастрычніка 1926 г.

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ РЭВІЗІІ РАЁННЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ У 1926 г.

*Акруговым Зямельным Камісіям БССР.*

Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю пунктам 3 журналу № 6 свайго распарадчага пасяджэньня за 20 сакавіка 1926 г. запрапанавала акруговым зямельным камісіям падаваць у АКВК пасьля абрэвізаваньня райземкамісій сьпісы актаў і сьпісы сваіх распараджэньняў аб зьнішчэньні знойдзеных пры рэвізіі недахватаў у працы райземкамісій.

Да 15 верасьня г.г. ў АКВК пададзены матар'ялы аб рэвізіі 38 райземкамісій з ліку 100, пры гэтым:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мазырская | Акр. Зям. Кам. | абрэвізавала | 9 | Раён. Зем. Камісіі | з | 10 |
| Менская | „ | „ | 9 | „ | „ | 11 |
| Барысаўская | „ | „ | 6 | „ | „ | 9 |
| Слуцкая | „ | „ | 4 | „ | „ | 7 |
| Полацкая | „ | „ | 3 | „ | „ | 9 |
| Калінінская | „ | „ | 3 | „ | „ | 10 |
| Аршанская | „ | „ | 3 | „ | „ | 10 |
| Магілёўская | „ | „ | 1 | „ | „ | 10 |
| Віцебская | „ | „ | — | „ | „ | 12 |
| Бабруйская | „ | „ | — | „ | „ | 12 |

Зпададзеных рэвізійных актаў і журналаў распардчых пасяджэньняў акруговых зямельных камісій відаць, што праца раённых зямельных камісій патрабуе пастаяннага інструктаваньня і рэвізійнай праверкі.

У працы абрэвізаваных камісій адзначаны наступныя больш важныя недахваты:

1. Зямельныя камісіі ня маюць памяшканьняў, прыстасаваных для судовых пасяджэньняў.

2. Ня ўсе зямельныя камісіі забясьпечаны кодэксамі, інструкцыямі і абежнікамі Народнага Камісарыяту Земляробства, а таксама не забясьпечаны літаратурай па зямельнаму праву, не атрымліваюць журналаў „Бюлетэнь СНК“ і „Плуг“.

3. Пасяджэньні зямельнных камісій адбываюцца ў складзе, не зацьверджаным Акруговым Выканаўчым Камітэтам.

4. Існуючы склад камісій не адпавядае аб'ёму працы, пры гэтым прыкмячаюцца частыя зьмены складу.

5. Ня ўсе зям. камісіі вядуць альфабэт да настольнага рэестру. Рух справы ў рэестры не даволі падрабязна запісваецца. Нявырашаныя справы мінулага году не пераносяцца ў настольны рэестр гэтага году.

6. Паперы, якія атрымліваюцца зямельнымі камісіямі не запісваюцца ў кнігах агульнае рэгістратуры.

7. Есьць вялікі процант нявырашаных спраў. Заўважаецца цаганіна з прычыны таго, што справы ў зямельных камісіях знаходзяцца каля 3 месяцаў.

8. Няма вызначанага дню ў тыдні для пасяджэньняў земкамісій.

9. Спрэчныя і земляўпарадчыя справы разглядаюцца ў распарадчых пасяджэньнях раённых земельных камісій.

10. Скаргі на рашэньні зямельных камісій падаюцца ў наступную інстанцыю не ў належны тэрмін, пры гэтым копія скаргі не пасылаецца другой старане.

11. Раённыя зямельныя камісіі разглядаюць непадсудныя ім справы аб зямлі дзяржаўных устаноў.

12. Пры спагнаньні судовых пошлін ня выконваюцца інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства, Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў за 20 мая 1926 г., у паасобку, не спаганяецца пошліна пры падачы іску, таксама няма нагляду за спагнаньнем пошліны сельсаветамі на падставе пастаноў зямельных камісій.

13. Ёсьць шмат нявыкананых рашэньняў зямельных камісій пры гэтым няма ніякага нагляду за выкананьнем гэтых рашэньняў. Вырашаныя і выкананыя справы не далучаюцца да адпаведных зямельных спраў.

14. Да гэтага часу рэгіструюцца ў Раённых Выканаўчых Камітэтах дабравольныя зьдзелкі аб падзеле двароў.

15. У зямельнай камісіі знаходзяцца справы за ўсе гады, ня гледзячы на тое, што справы да 1925 г. павінны быць здадзены ў архіў.

16. У спрэчным, а не земляўпарадчым парадку, разглядаюцца справы аб надзяленьні зямлі з запаснага фонду а таксама аб замацаваньні існуючага землякарыстаньня.

17. Справы аб захопах зямлі не разглядаюцца ў скарочаным парадку.

18. Бясспрэчныя земляўпарадчыя справы не падаюцца на разгляд акрземкамісій.

19. Робяцца нявызначаныя і ўмоўныя рашэньні.

20. Не абвяшчаецца тэрмін і парадак абскарджаньня зробленага рашэньня.

21. Разглядаюцца справы пры адсутнасьці зьвестак аб падачы павестак незьявіўшымся на суд старанам.

22. Не пасылаюцца старанам копіі завочных рашэньняў.

23. Пры разглядзе спраў аб падзелах дапушчаецца выдзел вучасткаў менш мінімальнае нормы, на якіх нельга зрабіць жыцьцёвае гаспадаркі.

24. У судовым парадку пацьвярджаюцца дабравольныя падзелы гаспадарак.

25. Выдзяляюцца з гаспадаркі ня ісцы, а адказчыкі, да якіх прад'яўлен іск аб разьдзеле.

26. Справы, у якіх старанамі зьяўляюцца недалеткі, разглядаюцца без выклікаmakі апекі.

27. Камісіі робяць рашэньні адначасна па некалькіх справах, якія ўсе разам і абвяшчаюць.

28. Пратаколы пасяджэньняў і пастановы не падпісваюцца ўсім складам камісіі.

Гэта значыць, што да гэтага часу некаторымі з абрэвізаваных раённых зямельных камісій дапушчаецца надзвычайная цеганіна ў руху спраў, грубае нарушэньне Зям. Кодэксу, процэсуальнае інструкцыі, а таксама правіл канцылярскага справаводзтва. Такія недахваты магчымы і ў працы неабрэвізаваных раённых зямельных камісій.

Для зьнішчэньня гэтых недахватаў і паляпшаньня працы зямельнага суду патрэбна сталая сувязь паміж існуючымі яго інстанцыямі, гэта сувязь павінна выяўляцца ня толькі ў атрыманьні пэрыядычных лічбовых справаздач аб руху спраў, але і ў кіраваньні і сталай праверцы работы.

Народны Камісарыят Земляробства зварочвае ўвагу акруговых зямельных камісій, пакінуўшых нагляд за працай першае інстанцыі зямельнага суду, на іх адказнасьць і прапануе Акруговым Зямельным Камісіям зрабіць рэвізію на месцы ва ўсіх неабрэвізаваных у гэтым годзе раённых зямельных камісіях, скласьці падрабязныя акты, высьвятліць недахваты ў рабоце гэтых камісій, прычыны гэтых недахватаў, а таксама зрабіць патрэбныя захады да зьнішчэньня ўсіх заўважаных недахватаў; копіі актаў і сваіх распараджэньняў падаць у Асобную Калегію Вышэйшага Кантролю.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў**.

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю **Лабаноўскі**.

28 кастрычніка 1926 г.
№ 8.

---

### 6. Правілы аб парадку надзяленьня навучальных і дзіцячых установаў, якія знаходзяцца па-за гарадамі, зямельнымі вучасткамі і аб парадку карыстаньня імі.

Каб надаць існуючым навучальным і дзіцячым установам, якія знаходзяцца па-за гарадамі, сельска-гаспадарчы ўхіл і зрабіць іх паказальнымі для сельскай гаспадаркі, Народн. Каміс. Земляробства і Народн. Каміс. Асьветы БССР, у адмену ўсіх раней выданых па гэтым пытаньні інструкцый, абежнікаў і распараджэньняў, лічаць неабходным прапанаваць мясцовым органам для няўхільнага выкананьня наступныя правілы:

1. Усе навучальныя і дзіцячыя установы, якія знаходзяцца па-за гарадамі, надзяляюцца зямельнымі вучасткамі.

*Увага.* Адносна парадку надзяленьня зямельнымі вучасткамі, разьмеру іх і скарыстоўваньня прыбыткаў ад іх, усе навучальныя і дзіцячыя ўстановы падзяляюцца: а) на чатырох-і сямёхгадовыя школы, б) дзіцячыя дамы, інтэрнаты, працоўныя колёніі і комуны з пражываючымі ў іх выхаванцамі, в) пэдтэхнікумы і г) сельска-гаспадарчыя школы.

2. Вышэйазначаныя ўстановы надзяляюцца зямельнымі вучасткамі з разьліку:

а) чатырохгадовыя школы—$1^1/_2$—2 гэктары і сямёхгадовыя школы—2—4 гэктары на кожную школу, у залежнасьці ад ліку ў іх вучняў, настаўнікаў і ад мясцовых умоў;

б) дзіцячыя дамы, інтэрнаты, працоўныя калёніі, комуны і іншыя культурна-асьветныя ўстановы—па $^1/_{10}$ гэктара на кожнага выхаванца, з павялічэньнем паказанай нормы, у залежнасьці ад мясцовых умоў, але ня менш 3 гэктараў на кожную паасобную ўстанову;

в) пэдтэхнікумы—ад 15 да 30 гэктараў, у залежнасьці ад патрэбнасьці іх;

г) сельска-гаспадарчым школам усіх тыпаў (ніжэйшыя, сярэднія і вышэйшыя) зямельныя вучасткі адводзяцца ў залежнасьці ад сапраўднай патрэбнасьці і ад мясцовых умоў па ўзгадненьні Народнага Камісарыяту Асьветы з Народным Камісарыятам Земляробства.

*Увага.* У лік паказанай вышэй плошчы ўваходзяць і сады.

3. За школамі, дзіцячымі дамамі і іншымі культурна-асьветнымі ўстановамі, у першую чаргу, замацоўваюцца сядзібы разьмяркованых былых панскіх двароў з усімі неабходнымі для памянёных устаноў будынкамі, калі гэткія там ёсьць, і калі яны адпавядаюць культурна-асьветным мэтам.

4. Калі ў тэй ці іншай сядзібе, з ліку разьмяркоўваемых былых панскіх двароў, у складзе дзяржаўнай зямельнай маемасьці ёсьць сады ў адлегласьці ад школы не далей 1-го кілёмэтру, дык яны павінны быць перададзены ў карыстаньне гэтых школ, альбо другіх культурна-асьветных устаноў у лік плошчы зямельных вучасткаў, якімі надзяляюцца гэтыя ўстановы.

*Увага.* Плошча садоў пры чатырохгадовых школах можа быць да 2-х гэктараў, а пры сямёхгадовых школах да 4-х гэктараў; калі-ж пры школах ёсьць сады са значна большаю плошчаю, дык земорганы лішкі гэтых садоў, звыш азначанай вышэй нормы, могуць адняць і здаць іх у арэнду ў агульным парадку.

5. Усе зямельныя вучасткі, якімі надзяляюцца ў парадку гэтых правіл культурна-асьветныя установы, павінны адводзіцца ў адным кавалку, у адлегласьці ад ўстановы ня больш 1-го кілёмэтру і, па магчымасьці, з ліку зямель лепшых па якасьці.

*Увага.* Калі тыя ці іншыя ўстановы карыстаюцца зямельным вучасткам у двух-трох кавалках, альбо адлегласьць яго ад установы больш 1-го кілёмэтру, дык такія вучасткі ў хуткім часе павінны быць заменены на іншыя, згодна папярэдняга артыкулу.

6. Пры адсутнасьці ў якіх-небудзь мясцох у складзе дзяржаўнай зямельнай маемасьці вольных зямель, мясцовыя зямельныя органы могуць адабраць з карыстаньня працоўнага насельніцтва той ці іншы зямельны вучастак, згодна Зям. Кодэксу БССР, і перадаць яго культурна-асьветнай установе.

*Увага.* Не дазваляецца адбіраць для гэтакіх мэт вучасткі, якія заняты будынкамі.

7. Адабраньне і адвод для культурна-асьветных установ зямельных вучасткаў робіцца зямельнымі органамі за кошт мясцовых сродкаў у першую чаргу, згодна агульных правіл выкананьня земляўпарадкавальных спраў. У заяўках Акруговых Аддзелаў Народнай Асьветы павінна быць даскальна паказана плошча і месца знаходжэньня патрэбнага вучастку.

8. Ва ўсіх выпадках надзяленьня школ і іншых культурна-асьветных установ зямельнымі вучасткамі ў парадку гэтых правіл, усе зямельныя ўгодзьдзі, у тым ліку і сады, якія ўваходзяць у склад зямельных вучасткаў, павінны перадавацца ім мясцовымі зямельнымі органамі па дагавору ў бясплатнае карыстаньне, згодна літары „а“ падзелу „В“ палажэньня аб землях спэцыяльнага назначэньня, зацьверджанага Экономічнай Нарадай БССР 31-га ліпеня 1926 г.

*Увага* 1. Перадача ўстановам вучасткаў, якія да гэтага часу знаходзяцца ў карыстаньні школ і іншых культурна-асьветных установ, таксама павінна быць афармлена дагаворамі на працягу 6 ,месяцаў з моманту выданьня гэтых правіл.

*Увага* 2. Узор тыповага дагавору да гэтага далучаецца.

9. Усе зямельныя вучасткі (сады, агароды, пашні, сенажаці і інш.), якімі надзяляюцца культурна-асьветныя ўстановы, павінны знаходзіцца пад непасрэдным загадам школьнай рады, на якой і ляжыць адказнасьць за правільнае і рацыянальнае іх скарыстоўваньне.

10. Зямельныя вучасткі якія перадаюцца культурна-асьветным установам, павінны апрацоўвацца самімі ўстановамі.

*Увага*. Калі ў тым ці іншым выпадку ўстанова ня мае жывога альбо мёртвага інвэнтару і сама ня можа апрацоўваць зямельнага вучастку, дык ёй дазваляецца здаваць яго ў арэнду іншым установам, альбо прыватным асобам, пры ўмове абавязковага заключэньня дагавору ў пісьмовай форме.

11. Сады, якія замацоўваюцца за школамі, альбо іншымі культурна-асьветнымі ўстановамі, павінны быць абгароджаны за кошт установы і за імі павінен быць належны культурна-гаспадарчы догляд, у супраціўным выпадку сады, незалежна ад плошчы іх, павінны адбірацца ад школ ці установ і здавацца ў арэнду агульным парадкам іншым установам, альбо прыватным асобам.

12. У мэтах ажыцьцяўленьня наглyданьня за карыстаньнем садамі, перададзенымі культурна-асьветным ўстановам, зямельныя органы, пры перадачы іх установам, павінны прыкласьці к пісьмовай ўмове опісы пладавых дрэў з паказаньнем узросту іх і грашовай каштоўнасьці, а таксама ведамасьць адносна разьмеру тэй арэнднай платы, якую можна было-б атрымаць за сад пры скарыстаньні яго на агульных падставах.

13. Прыбыткі ад усіх зямельных вучасткаў (садоў, агародаў, пахаці і сенажацяў), якія апрацоўваюцца самімі ўстановамі, цалкам ідуць на карысьць установы ў яе спэцыяльныя сродкі.

14. Прыбыткі ад зямельных вучасткаў, якія апрацоўваюцца настаўнікамі і за іх кошт, разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

а) з садоў, плошчай да 1-го гэктару, на карысьць установы ідзе 40% агульнай сумы прыбыткаў, а рэшта 60%—настаўнікам за догляд, вартаваньне і апрацоўку іх;

б) з садоў, плошчай ад 1-го да 2-х гэктараў на карысьць установы ідзе 60% агульнай сумы прыбыткаў, а рэшта 40%—настаўнікам за догляд, вартаваньне і апрацоўку іх;

в) з палёў і агародаў на карысьць установы ідзе 20% агульнай сумы прыбыткаў, а настаўнікам 80%—за апрацоўку, пасеў, угнаеньне і зборку ўраджаю;

г) з сенажацяў на карысьць установы ідзе 50% агульнай сумы прыбыткаў і 50%—настаўнікам за нагляд, касьбу і зборку сена.

15. Прыбыткі ад усіх зямельных вучасткаў, якія здаюцца ўстановамі ў арэнду прыватным асобам, у парадку ўвагі да арт. 10 гэтых правіл, цалкам ідуць на карысьць установы.

*Увага.* Пры гэтым маецца на ўвазе, што ўсе траты па апрацоўцы здаваемых у арэнду зямельных вучасткаў, а таксама і па догляду за садамі, арандатары павінны выконваць за свой кошт.

16. У мэтах выяўленьня сапраўдных прыбыткаў і вучоту іх ад скарыстоўваньня зямельных вучасткаў самімі ўстановамі, ва ўсіх установах павінны быць заведзены бухгальтарскія кнігі, па якіх павінны своечасова запісвацца ўсе прыбыткі і выдаткі.

17. Вызначэньне прыбыткаў ад зямельных вучасткаў, якія апрацоўваюцца самімі настаўнікамі, робіцца кожны год, увосень, па сканчэньні збораў усіх ураджаяў, асобнай камісіяй, якая складаецца з прадстаўнікоў мясцовага зямельнага органу, грашовых спраў, камітэту сялянскай узаемадапамогі і загадчыка школы.

18. На абавязак мясцовых зямельных і адміністрацыйных органаў, ускладаецца:

а) нагляд за правільнасьцю сельска-гаспадарчага скарыстаньня замацоўваемых за культурна-асьветнымі ўстановамі зямельных вучасткаў;

б) аказваць усім культурна-асьветным установам усялякую магчымую сельска-гаспадарчую дапамогу, як у справе хутчэйшага надзяленьня іх зямельнымі вучасткамі, таксама і шляхам дачы ім праз агрономаў агранамічных указаньняў і чытак лекцый па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі.

19. Ва ўсіх выпадках ліквідаваньня культурна-асьветнай установы, альбо адабраньня ад яе зямельнага вучастку, як для патрэб дзяржавы, так і з прычыны безгаспадарчага скарыстоўваньня, усе зямельныя вучасткі са знаходзячыміся на іх пладавымі насадкамі перадаюцца зямельным органам.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Начальнік Кіраўмэліязему
і Дзяржмаемасьцяй НКЗ **А. Шычко.**

Загадчык Агульнага
Аддзелу НКА **Ю. Савіч.**

11 лістапада 1926 г.

Дадатак.

## Тыповы дагавор на перадачу вучэбным і дзіцячым культурна-асьветным установам зямельных дзялянак у іх дарэмнае карыстаньне.

Гор.................. 192 г. .................. дня..................

.................. Акруговы зямельны Аддзел, у далейшым называемы Акрземаддзел (альбо.................. Раённы Выканаўчы Камітэт, у далейшым называемы Райвыканком) у асобе свайго прадстаўніка (пасада, прозьвішча, імя і імя па бацьку)—з аднаго боку і загадчык .................. (поўнае названьне вучэбнае альбо дзіцячае культурна-асьветнае ўстановы) у асобе загадчыка (прозьвішча, імя і імя па бацьку)—з другога боку, на падставе п. 8 правіл аб парадку надзяленьня вучэбных і дзіцячых культуна-асьветных устаноў зямельнымі вучасткамі і аб парадку скарыстаньня іх за 11 лістапада 1926 г., зрабілі гэту ўмову наступнага зьместу:

1. .................. Акрземаддзел (ці Райвыканком) перадае.................. (поўнае названьне культурна-асьветнае ўстановы) у яе вучэбнае сельска-гаспадарчае карыстаньне зямельную дзялянку плошчаю.................. гэктараў, якая знаходзіцца ў (названьне сяла, вёскі альбо пасёлка, сельсавету) і ў склад якой, згодна прыкладзенага да гэтага дагавору сьпісу, уваходзіць

а) воранае зямлі.................. гэктараў на .................. руб.

б) сенажаці заліўной.................. „ „ .................. руб.

в) сенажаці сухаземнай.................. „ „ .................. руб.

г) сенажаці болотнай.................. „ „ .................. руб.

д) саду .................. „ „ .................. руб.

е) агароду.................. „ „ .................. руб.

ж) пладавых дрэў.................. шт. „ .................. руб.

і іншых .................. „ „ .................. руб.,

а ўсяго грунтоўных капіталаў на агульную суму (колькасьць прописам) рублёў.

*Увага.* Агульная плошча перададанага зямельнага вучастку можа значна зьмяняцца, прычым гэтая зьмена ў кожным паасобным выпадку можа быць зроблена толькі мясцовымі зямельнымі органамі з папярэднім узгадненьнем гэтага пытаньня з адпаведным Акруговым Выканаўчым Камітэтам і органамі Народнага Камісарыяту Асьветы.

2. Усе вышэйпамянёныя грунтоўныя капіталы, згодна „Палажэньня аб землях спэцыяльнага назначэньня“, зацьверджанага Экономічнаю Нарадаю БССР за 31-га ліпеня 1926 г., перадаюцца (названьне ўстановы) у яе дарэмнае сельска-гаспадарчае карыстаньне.

3. (Названьне культурна-асьветнае ўстановы) прымаючы ў сваё веданьне і распараджэньне зямельную дзялянку, абавязана:

а) трымаць у поўным парадку і сваячасна рэмантаваць усе будовы, масты, гаці, дарогі, гароды, мэліорацыі, як прынятыя ад Акру-

говага Зямельнага Аддзелу (альбо Раённага Выканаўчага Камітэту), так і занова адбудаваныя альбо пралажаныя ў працягу чыннасьці дагавору;

б) абараняць і падтрымліваць у належным выглядзе межавыя знакі;

в) трымаць у належным выглядзе ўсе мэліорацыі, у склад якіх уваходзяць: студні, сажалкі, равы і іншыя вадазборы і ўсякага роду мэліорацыйныя пабудовы і не псаваць у іх ваду

г) трымаць у поўным парадку і захаваньні ўсе пладавыя пітомнікі, сады, агароды і мець за імі належны культурна-гаспадарчы нагляд.

4. У сваёй вучэбна-гаспадарчай працы (назва ўстановы) па меры мажлівасьці павінна самым шчыльным парадкам уваходзіць у зносіны з сялянскім насельніцтвам, прыстасоўваючы сваю культурна-гаспадарчую працу да агульнага пляну працы мясцовых зямельных органаў у агракультурнай галіне шляхам утварэньня настаўнікамі школ чыткі лекцый насельніцтву, прыняцьцем непасрэднага ўдзелу ў сельска-гаспадарчых курсах і г. д., дапушчаць да агляду скарыстоўваемых установаю зямельных дзялянак, садоў і агародаў групамі паасобных сялян, даваць ім патрэбныя тлумачэньні і весьці з імі гутаркі па ўсіх пытаньнях у галіне гаспадарнасьці ўстановы.

5. (Назва ўстановы) павінна карыстацца перададзеным ёй зямельным вучасткам у мясцох, якія паказаны ў земляўпарадчым пляне, альбо будуць паказаны земляўпарадчыкамі пры адмежаваньні вучастку і ні ў якім выпадку не дапускаць зьмены існуючых межаў.

6. Права карыстаньня (назва ўстановы) абмяжоўваецца паверхняю зямлі, але пры гэтым ей дазваляецца капаць для патрэбы ўстановы каменьні, пясок, гліну і торп, на падставе існуючых распараджэньняў.

7. Пабудова на зямельным вучастку млыноў, а таксама і іншых тэхнічных прадпрыемстваў і мэліорацыйных будоў можа рабіцца толькі па асобнаму ў кожным выпадку дазволу мясцовых зямельных органаў.

8. (Назва ўстановы) павінна аплачваць усе дзяржаўныя і мясцовыя падаткі, якія выпадаюць на долю перададзенага ўстанове зямельнага вучастку, як цяпер існуючыя, гэтак і тыя, якія могуць быць уведзены на працягу тэрміну чыннасьці дагавору.

9. (Назва ўстановы) павінна своечасова даводзіць да ведама мясцовыя зямельныя органы аб зьяўленьні с.-г. шкоднікаў на садох, палёх, агародах і сенажацях дзеля прыняцьця належных мер барацьбы.

10. Перадаваемы па гэтаму дагавору зямельны вучастак з усімі ўваходзячымі ў яго склад ужыткамі павінен апрацоўвацца самою ўстановай.

*Увага.* Калі ў тым ці іншым выпадку сама ўстанова ня мае жывога альбо мёртвага інвэнтару і гэткім чынам сама ня можа апрацоўваць яго, дык ей дазваляецца здаваць гэтую дзялянку ў арэнду прыватным асобам пры ўмове абавязковага заключэньня арэнднага дагавору ў пісьмовай форме і кожны раз з дазволу мясцовых зямельных органаў.

11. Адвод зямельнай дзялянкі робіцца зямельнымі органамі ў абавязковым парадку за кошт мясцовых сродкоў, згодна агульных правіл выкананьня земляўпарадкавальных спраў.

12. Пры ліквідаваньні культурна-асьветнае ўстановы зямельная дзялянка, замацаваная за гэтаю ўстановаю, пераходзіць у распарад-

жэньне органаў Народн. Каміс. Земляробства, як дзяржаўная зямельная маемасьць.

13. Усе законы і адміністрацыйныя распараджэньні, якія тычацца дзяржземмаемасьцяй, як цяпер існуючыя, так і тыя, што будуць выданы на працягу чыннасьці гэтага дагавору, абавязковы і для ўстановы.

14. (Назва ўстановы) павінна ва ўсякі час дапушчаць прадстаўнікоў Народн. Каміс. Земляробства і Народн. Каміс. Фінансаў альбо іх мясцовых органаў для агляду і праверкі правільнасьці выкананьня гэтага дагавору.

15. (Назва ўстановы) у мэтах падліку прыбытковасьці скарыстоўваемага ёю зямельнага вучастку павінна весьці рахункаводзтва па такому ўкладу, каб ва ўсякім часе магчыма было ўстанавіць, якую прыбытковасьць мае ўстанова ад перададзенага ей вучастку.

16. У выпадку безгаспадарчага альбо драпежнага скарыстоўваньня культурна-асьветнаю ўстановаю зямельнага вучастку, загадчык установы прыцягваецца да адказнасьці, а вучастак устаноўленым парадкам адбіраецца ад установы і скарыстоўваецца зямельнымі органамі, як дзяржаўная зямельная маемасьць на агульных умовах.

17. Гэты дагавор уваходзіць у юрыдычную сілу пасьля зацьверджаньня яго Акруговым Зямельным Аддзелам.

18. Усе траты па гэтаму дагавору (назва ўстановы) бярэ на свой кошт.

19. Юрыдычны адрас старон..........................................................................

Подпісы старон: ______________________

______________________

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ПАРАДКУ ПРАДАСТАЎЛЕНЬНЯ ПАСАД АСОБАМ НАЧАЛЬНІЦКАГА СКЛАДУ, ДЭМОБІЛІЗАВАНЫМ З РАБОЧА-СЯЛЯНСКАЙ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы і ўсім Культурна-асьветным установам, непасрэдна падпарадкаваным Народнаму Камісарыяту Асьветы.*

У мэтах ажыцьцяўленьня пастановы Савету Народных Камісараў СССР за 14 верасьня 1926 г. „аб парадку прадастаўленьня пасад у дзяржаўных установах і прадпрыемствах асобам начальніцкага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якія звальняюцца ў запас, доўгатэрміновы водпуск і зусім ад службы“ (Гл. „Ізьвесьція ЦВК Саюзу ССР і Усер. ЦВК“ за 16/IX 1926 г. № 213 (2844), Народны Камісарыят Асьветы прапануе пры зьменах у складзе працаўнікоў культурна-асьветных устаноў у першую чаргу прымаць асоб начальніцкага складу, звольненых з Чырвонай Арміі ў запас, доўгатэрміновы водпуск і зусім ад службы.

Аб прысылцы на працу вышэйпамянёных асоб трэба зьвяртацца ў Акруговыя Камісіі па разьмеркаваньню і толькі ў выпадках адсутнасьці адпаведных спэцыялістых з ліку дэмобілізаваных—запрашаць іншых асоб.

Намесьнік Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА **Ю. Савіч.**

30 кастрычніка 1926 г.
№ 2.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ЗВАЛЬНЕНЬНІ АД ПЛАТЫ ДЗЯЦЕЙ АСОБ, ЯКІЯ ЛІЧАЦЦА УТРЫМАНЦАМІ ОРГАНАЎ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ СОЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЯСЬПЕКІ, АЛЕ ЗАМЕСТ ГРАШОВАЙ ДАПАМОГІ АТРЫМОЎВАЮЦЬ АД АПОШНІХ БЯСПЛАТНЫЯ ПАТЭНТЫ.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы, вышэйшым навучальным установам, мастацкім, музычным і прамыслова-экономічным тэхнікумам.*

У разьвіцьцё літ. „в“ арт. 3 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 3 лютага 1926 г. (Зб. Зак. і Заг. Ураду БССР 1926 г. № 5, арт. 17) аб прыцягненьні бацькоў вучняў да дапамогі школе, Народны Камісарыят Асьветы тлумачыць, што асобы, якія атрымоўваюць ад органаў Народнага Камісарыяту Соцыяльнае Забясьпекі бясплатныя патэнты замест грашовай дапамогі, зьяўляюцца ўтрыманцамі гэтых органаў і дзеля гэтага дзеці іх павінны звальняцца ад платы за навучаньне.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА **Ю. Савіч.**

1 лістапада 1926 г.
№ 3.

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ЗЬМЕНЕ п. 3 АБЕЖНІКУ НАРОДН. КАМІС. РАБОЧА-СЯЛЯНСКАЙ ІНСПЭКЦЫІ І НАРОДН. КАМІС. ПРАЦЫ БССР ЗА 17 ЖНІЎНЯ 1926 Г. АБ ПАРАДКУ ДАЗВОЛУ ЗВЫШМЕРНЫХ РАБОТ І АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ДЛЯ ЗМАГАНЬНЯ З ІМІ.

Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народны Камісарыят Працы БССР п. 3 свайго абежніку за 17 жніўня 1926 г., апублікаванага ў Бюлетэні СНК БССР за 1926 № 11 (20), зьмяняюць і запісваюць у наступнай рэдакцыі:

„Звышмерныя работы, праведзеныя па загаду кіраўнікоў устаноў без дазволу органаў Народн. Каміс. Працы, аплачваюцца ўстано-

вай, для якое яны зроблены. Выдаткі па аплаце гэтай работы могуць быць зьвернуты ўстанове прад'яўленьнем кіраўніку ўстановы, па загаду якога праводзілася работа, грамадзянскага іску, або налічэньнем на яго".

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі БССР **Нікіцін.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Алесін.**

1-га лістапада 1926 г.
№ 7218—79—1/9.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў ДЗЕЙНАСЬЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР ЗАЦЬВЕРДЖАНЫХ НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯТАМ ПРАЦЫ СССР ПАСТАНОЎ І ПРАВІЛ АБ ПАРАДКУ ПАБУДАВАНЬНЯ І ЎТРЫМАНЬНЯ ПРАМЫСЛОВЫХ ЗАКЛАДАЎ.

Для дапаўненьня свае пастановы за 30-га красавіка 1926 г. № 32 аб увядзеньні ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР існуючых пастаноў і правіл Народнага Камісарыяту Працы СССР аб парадку пабудаваньня і ўтрыманьня прамысловых закладаў, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Увесьці ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР дадаткова пералічаныя ніжэй абавязковыя пастановы і правілы аб парадку пабудаваньня і ўтрыманьня прамысловых закладаў, якія зацьверджаны Народным Камісарыятам Працы СССР:

а) абавязковую пастанову Н. К. Працы СССР за 13 мая 1926 г. № 110/334 аб мерах бясьпечнасьці работ у чыгунна-і медналіцейнай вытворчасьці („Известия Н. К. Працы СССР" 1926 г. № 19/20) і

б) абавязковую пастанову Н. К. Труда СССР за 18-га жніўня 1926 г. № 177/369 аб пабудаваньні і ўтрыманьні гарбарняў („Известия Н. К. Труда СССР" 1926 г. № 33).

2. Паказаныя абавязковыя пастановы Н. К. Працы СССР уводзяцца ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР з 1-га лістапада 1926 г.

Народны Камісар Працы БССР **Ерафееў.**

Нам. Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП **Савасьцьянаў.**

Кіраўнік Спраў НКП **Акулаў.**

5 кастрычніка 1926 г.
№ 1.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАДЛІКУ ОРГАНАМІ Н. К. ПРАЦЫ ПРЫНЯТЫХ УСТАНОВАМІ І ПРАДПРЫЕМСТВАМІ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ У ПАРАДКУ ДАБРАВОЛЬНАГА НАЙМАНЬНЯ.

Для таго, каб даць магчымасьць мясцовым органам Н. К. Працы падлічаць, колькі прынята рабочых і служачых у парадку дабравольнага найманьня, Народны Камісарыят Працы БССР, на зьмену

п. 2-га свае пастановы за 26-га студзеня 1926 г. № 6 (апублікаванае ў Бюлетэні СНК БССР № 2 (11) за люты г. г.) ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Установы і прадпрыемствы, пералічаныя ў паказанай вышэй пастанове, павінны падаваць не пазьней 10-га дня наступнага за справаздачным месяца, статыстычныя картачкі (форма № 4) аб ліку прынятых імі рабочых і служачых беспасрэдна ў акруговыя аддзелы (камары інспэкцыі) працы па месцы знаходжаньня ўстановы або прадпрыемства.

2. Новы парадак падачы картачак па форме № 4 ўводзіцца ў дзейнасьць з 1-га лістапада 1926 г.

Народны Камісар Працы БССР **Ерафееў.**

Заг. Аддзелу Рынку Працы **Мышалаў.**

Кіраўнік Спраў НКП **Акулаў.**

9 кастрычніка 1926 г.
№ 3.

---

## 12. Абежнік Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### АБ ПАРАДКУ ЛІКВІДАЦЫІ ПРАМЫСЛОВА-КООПЭРАЦЫЙНЫХ АРЦЕЛЕЙ (Т-ВАЎ).

*Усім Прамыслова-Коопэрацыйным арцелям (Т-вам) і Саюзам БССР.*

Заўважаецца, што некаторыя арцелі (Т-вы) ліквідуюць сваю дзейнасьць без захаваньня ўстаноўленага законам парадку аб ліквідацыі прамыслова-коопэрацыйных арцелей і таварыстваў: члены арцелі (таварыства) разыходзяцца, разьмеркаваўшы паміж сабою маемасьць арцелі (Т-ва) без захаваньня Статуту, без паведамленьня Саматужнага пад'аддзелу Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР, не здаюць кніг і спраў арцелі ў Саматужны пад'аддзел і не апавяшчаюць у мясцовай часопісі аб спыненьні сваей дзейнасьці.

Лічачы гэтакі парадак недапусьцімым і супярэчным закону, Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР прапануе пры ліквідацыі кіравацца наступным палажэньнем:

1. Прамыслова-Коопэрацыйныя арцелі (Т-вы) лічацца не ўтварыўшыміся, калі яны не пачалі ажыцьцяўляць дзейнасьці, прадугледжанай Статутам на працягу 3-х месячнага тэрміну ад дню атрыманьня зарэгістраванага статуту.

2. Пры надыходзе тэрміну, прадугледжанага арт. 1-ым, заклад-чыкі павінны ў месячны тэрмін зрабіць апавяшчэньне ў мясцовай часопісі акруговага выканаўчага камітэту, або ў газэце „Савецкая Беларусь", аб тым, што арцель (Т-ва) не ўтварылася, а таксама паведаміць аб гэтым Саматужны пад'аддзел Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР для запісу ў рээстры.

3. Прамыслова-Коопэрацыйная арцель (Т-ва) ліквідуецца:

а) па пастанове агульнага сходу членаў або сходу ўпаўнаважаных, калі апошняму такое права дадзена Статутам ці агульным сходам;

б) калі лік членаў арцелі (Т-ва) будзе менш 5 чал.;

в) згодна рашэньню суду, а таксама па пастанове адпаведных органаў улады.

4. Пры ліквідацыі арцелі (Т-ва), у выпадках, прадугледжаных пунктамі „а“ і „в“ арт. 3, Праўленьне павінна склікаць агульны сход членаў арцелі (сход упаўнаважаных), які ўстанаўляе парадак і тэрмін ліквідацыі арцелі (Т-ва), пры гэтым тэрмін ліквідацыі не павінен перавышаць 6-ці месяцаў.

5. Пастановы агульнага сходу аб ліквідацыі пасылаюцца ў Саматужны Пад'аддзел Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР і апавяшчаюцца ў мясцовай часопісі акруговага выканаўчага камітэту, або ў газэце „Савецкая Беларусь“.

6. Ліквідацыя спраў арцелі (Т-ва) робіцца членамі Праўленьня, калі паводле Статуту, або паводле пастановы агульнага сходу членаў (сходу ўпаўнаважных) гэта ліквідацыя ня ўскладзена на іншых асоб.

*Увага.* У ліквідацыйную камісію на роўных правох з ліквідатарамі павінны дапускацца прадстаўнікі організацый, да якіх, паводле Статуту, павінна перайсьці застаўшаяся пасьля ліквідацыі маемасьць арцелі (Т-ва), у ліку ня больш аднаго прадстаўніка ад кожнае організацыі.

7. Ліквідатары падлягаюць агульным правілам, якія ўстаноўлены Статутам для членаў Праўленьня і на тых самых падставах адказваюць за зробленыя арцелі (Т-ву) шкоды, пры гэтым дзейнасьць ліквідатараў контролюецца Рэвізійнаю Камісіяй арцелі (Т-ва).

8. Ліквідатары, выконваючы абавязнасьці арцелі (Т-ва), атрымліваюць і сыскваюць па запатрабаваньнях арцелі, а таксама прадаюць належачую арцелі (Т-ву) маемасьць. Уступаць у новыя абавязнасьці, якія выходзяць за межы, патрэбныя для ліквідацыі, ліквідатары могуць толькі ў тым выпадку, калі на гэта ім дадзена права агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

9. Калі маемасьці арцелі (Таварыства) будзе не хватаць дзеля пакрыцьця ўсіх абавязнасьцяй яе, то ліквідатары, разьмеркаваўшы паміж сабой суму, якую кожны член павінен заплаціць паводле Статуту, спаганяюць гэтыя сумы з членаў арцелі (Т-ва).

10. Зварот паявых узносаў членам арцелі (Т-ва) можа быць зроблены не раней пакрыцьця ўсіх даўгоў арцелі (Т-ва) і не раней 3-х месяцаў ад дню апавяшчэньня аб назначэньні ліквідацыі. Сума, патрэбная для задавальненьня спрэчных даўгоў арцелі (Т-ва) і даўгоў, па якіх тэрміны яшчэ не надышлі, ліквідатары павінны адлічыць самі.

За парушэньне правіл гэтага артыкулу ліквідатары нясуць на роўных правох поўную маемасную адказнасьць, як перад арцельлю (Т-вам), так і перад яе крэдытарамі. Такая самая адказнасьць ўскладаецца і на членаў Рэвізійнае Камісіі, калі імі, па выяўленьні парушэньняў, ня была зроблена аб гэтым заява ў пісьмовай форме.

11. Пасьля выплаты даўгоў арцелі (Т-ва) і пасьля звароту паявых узносаў, ліквідатары даюць прызначэньне маемасьці, якая засталася, паводле Статуту, або паводле пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных).

12. Пасьля ліквідацыі, але не пазьней месячнага тэрміну, ліквідатары складаюць справаздачу аб сваіх дзеяньнях, якую падаюць

агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных), з заключэньнем Рэвізійнае Камісіі на зацьвярджэньне. Пасьля зацьвярджэньня справаздачы, ліквідатары паведамляюць аб сканчэньні ліквідацыі ў Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР для запісу ў рэестры і апавяшчаюць у мясцовай часопісі акруговага выканаўчага камітэту, або ў газэце „Савецкая Беларусь", дзеля якой мэты затрымліваецца патрэбная сума. Кнігі, справы і дакумэнты арцелі (Т-ва) перадаюцца ліквідатарамі ў Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР, які хавае іх на працягу 3-х год, дапушчаючы быўшых удзельнікаў арцелі (Т-ва) і крэдытараў да агляду іх, выдае копіі, выпісы і спраўкі.

*Увага.* Калі сход (сход упаўнаважаных) не адбыўся з прычыны няяўкі сяброў арцелі (Т-ва) у ліку, які прадугледжаны Статутам, ліквідатары сваю справаздачу падаюць на зацьверджаньне ў Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР.

13. Пры ўмовах, прадугледжаных пунктам „б" арт. 3, застаўшыеся члены павінны неадкладна паведаміць аб гэтым у Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР і пасьля атрыманьня ад апошняга паўнамоцтва на ліквідацыю, пачаць ліквідацыю неадкладна з захаваньнем правіл, якія ўстаноўлены ўвагаю да артыкулаў 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, зьмяшчаючы апавяшчэньне аб пачатку ліквідацыі арцелі (Т-ва) ў часопісі мясцовага акруговага выканаўчага камітэту.

*Увага* 1. У тых выпадках, калі для тых або іншых дзеяньняў ліквідатараў патрабуецца санкцыя агульнага сходу членаў арцелі (Т-ва) (сходу ўпаўнаважаных), такія дзеяньні могуць быць зроблены толькі з дазволу Саматужнага Пад'адзелу ВСНГ БССР.

*Увага* 2. Ліквідатары ў выпадках, прадугледжаных арт. 13, падаюць у Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР справаздачу без папарэдняга разгляду Рэвізійнаю Камісіяй.

14. Пры ўмовах, паказаных у п. п. „а", „б", „в" арт. 3, і немагчымасьці Праўленьнем арцелі (Т-ва) атрымаць санкцыю на ліквідацыю з боку агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), з прычыны няяўкі членаў арцелі (Т-ва) ў другі раз на сход, Праўленьне арцелі (Т-ва) павінна ўзьняць перад Саматужным Пад'аддзелам ВСНГ БССР хадайніцтва аб ліквідацыі арцелі (Т-ва), а таксама аб апавяшчэньні аб гэтым у часопісі мясцовага акр. выкан. камітэту, або ў газэце „Савецкая Беларусь", з зазначэньнем, што ўсе супярэчаньні адносна ўзьнятага хадайніцтва могуць быць заяўлены членам арцелі (Т-ва) ў Саматужны Пад'аддзел ВСНГ БССР ў месячны тэрмін ад дня апавяшчэньня.

15. Саматужны Пад'адзел ВСНГ БССР, атрымаўшы такое хадайніцтва, пасьля месячнага тэрміну ад дня апавяшчэньня аб гэтым, разглядае як само хадайніцтва, так і ўсе паступіўшыя з боку членаў арцелі (Т-ва) супярэчаньні. Пры задавальненьні ўзьнятага хадайніцтва, Саматужны Пад'адзел выдае Праўленьню Арцелі (Т-ва) поўнамоцтва на права ліквідацыі, з захаваньнем правіл, прадугледжаных арт. 13 гэтага абежніку.

16. Праўленьне Прамыслова-Коопэрацыйных Арцелей (Т-ваў) і заклапчыкі апошніх за спыненьне і за ліквідацыю арцелі (Т-ва) без захаваньня зазначаных вышэй правіл гэтага абежніку Саматужным

Пад'аддзелам ВСНГ БССР будуць прыцягацца да судовае адказнасьц паводле арт. 226 Крым. Код.

Зазначаныя вышэй правілы аб спыненьні дзейнасьці арцелей, Таварыстваў і Саюзаў прапануецца прыняць да кіраваньня і выкананьня.

Пам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР **Міленькі.**

Нач. Адм.-Гасп. Кіраўніцтва ВСНГ **Лучышын.**

9 кастрычніка 1926 г.
№ 4.

## 13. Аб рэорганізацыі акруговых аддзелаў камунальнае гаспадаркі.

### I. ЧЫМ ВЫКЛІКАНА РЭОРГАНІЗАЦЫЯ.

Пры распрацоўцы проэкту рэорганізацыі апарату камунальнае гаспадаркі трэба было прымаць пад увагу: а) рост камунальнай гаспадаркі наогул, б) пастанову Пленуму ЦК КП(б)Б і III-яй Сэсіі ЦВК БССР аб організацыі органу, які-б ведаў мясцоваю прамысловасьцю, в) вынікі работы акруговых аддзелаў Камунальнае гаспадаркі, якія ведаюць камунальнаю гаспадаркаю ў акруговых гарадох і раёнах, г) імкненьне Акр. Вык. Камітэтаў утвараць гарадзкія аддзелы камунальнае гаспадаркі, паводле палажэньня аб Гарадзкіх Саветах.

Работа Акр. Аддзелаў Кам. Гаспадаркі паказала, што існуючая структура Акруговага Аддзелу Камунальнай Гаспадаркі, патрабуе значных зьмен. Акруговыя Аддзелы Камунальнай гаспадаркі, замест таго, каб кіраваць гаспадаркаю акругі, сталі органамі, якія фактычна кіруюць толькі гаспадаркай акруговых гарадоў і вельмі мала зварочваюць увагі на кіраваньне гаспадаркаю акругі. Аб гэтакім становішчы сьведчыць прыклад самых моцных Аддзелаў Камунальнай гаспадаркі (Менск, Віцебск), якія ня здолелі кіраваць камунальнаю гаспадаркай раёнаў.

Хуткі тэмп аднаўленьня мясцовае прамысловасьці і організацыйныя недахваты ў органах, якія кіруюць гаспадаркай, адзначаны ў пастанове Пленуму ЦК КП(б)Б (красавік 1926 г.), у якой гаворыцца, што: „пры акруговых аддзелах мясцовае гаспадаркі павінны больш чотка працаваць п/аддзелы мясцовай прамысловасьці, якія па пытаньнях вытворчых плянаў задаваленьня сырызнай, імпортнымі таварамі з цэнтру падпарадкаваны ВСНГ БССР“.

Гэтыя акалічнасьці сталі падставаю проэкту рэорганізацыі апарату камунальнае гаспадаркі. Гэтым проэктам прадугледжваецца ўтварэньне акруговых аддзелаў камунальнае гаспадаркі і аддзелаў мясцовае прамысловасьці пры Акруговым Кіраўніцтве Мясцовае Гаспадаркі.

Паводле новага проэкту ўсе больш важныя галіны камунальнае гаспадаркі дакладна організацыйна аформлены ў адпаведнасьці з рэзолюцыяй Пленуму ЦК КП(б)Б.

### II. СУТНАСЬЦЬ РЭОРГАНІЗАЦЫІ.

Акруговыя Кіраўніцтвы Мясцовае Гаспадаркі Акруговых Выканаўчых Камітэтаў, якія організуюцца замест Акруговых Аддзелаў Камунальнае Гаспадаркі, утвараюцца ў наступным складзе:

1) Акруговы Аддзел Камунальнае Гаспадарк з пад'аддзеламі: а) дарожным, б) пажарным, в) зямельна-жыльлёвым і г) будаўнічым. Функцыі гэтага аддзелу наступныя: інспэктаваньне і кіраваньне камунальнаю гаспадаркаю акруговага гораду і раёнаў, правядзеньне праз дарожныя пад'аддзелы ўсіх дарожных работ на дарогах акруговага значэньня і больш складных будынін на раённых дарогах, выкананьне якіх непасільна для раёных камунальна-дарожных частак у фінансавых і тэхнічных адносінах;

2) Прамысловы Аддзел, які мае наступныя функцыі: агульна-арганізацыйнае, тэхнічнае і фінансавае кіраваньне; кантроль і рэгуляваньне камунальнаю і мясцоваю прамысловасьцю акругі; распрацоўка мерапрыемстваў да разьвіцьця мясцовае прамысловасьці; выкананьне праз агульную бухгальтэрыю функцый рэвізійных камісій у адносінах да трэстаў, комбінатаў і асобных прадпрыемстваў; разгляд і зацьверджаньне проэктаў новых прадпрыемстваў, складаньне пляну крэдытных і імпортных на ўвоз сырызны і абсталяваньня для прадпрыемстваў акругі;

3) Аддзел Гарадзкой Камунальнай Гаспадаркі з пад'аддзеламі: а) рамонтна-будаўнічым і дабрабыту, б) жыльлёва-зямельным, в) гарадзкое пажарнай аховы. Аддзел утрымоўваецца на сродкі гарадзкога бюджэту і зьяўляючыся часткаю Кіраўніцтва Камунальнае Гаспадаркі, падпарадкаван Гарадзкому Савету. Усе пытаньні прынцыповага характару, зьвязаныя з гарадзкою камунальнаю гаспадаркаю, спачатку абмяркоўваюцца на Прэзыдыумах Гарсавету.

Агульнае кіраваньне гарадзкою прамысловасьцю ажыцьцяўляе Прамысловы Аддзел Акруговага Кіраўніцтва Мясцовае Гаспадаркі, узгадняючы сваю дзейнасьць з Прэзыдыумам Гарсавету.

4) Агульны Аддзел у складзе: а) сэкратарыяту, б) фінансава-кантрольнага пад'аддзелу, і в) статыстычнага пад'аддзелу.

Агульны аддзел абслугоўвае ўсе 3 вытворчыя аддзелы Акруговага Кіраўніцтва Мясцовае Гаспадаркі ў адносінах канцылярыі, бухгальтэрыі, фінансавага кантролю і статыстыкі. Узаемаадносіны агульнага аддзелу з іншымі аддзеламі вызначаюцца Палажэньнем аб Кіраўніцтве Мясцовай Гаспадаркі і інструкцыямі Загадчыка Кіраўніцтва.

Усё Кіраўніцтва, цалкам знаходзячыся пры выканаўчым камітэце, падпарадкавана ў адносінах мясцовае прамысловасьці Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР, а ў іншых галінах камунальнае гаспадаркі (дарожн., пажарн., прамыслов.)—Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР па Галоўнаму Кіраўніцтву Камунальнае Гаспадаркі.

Гэтае падвойнае падпарадкаваньне пры рэглямантаваным Палажэньні аб правох і абавязках Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі ня сустрэне на практыцы ніякіх няўвязак і цалкам адпавядае пастанове Пленуму ЦК КП(б)Б аб мясцовай прамысловасьці.

## III. БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ АКРУГОВЫХ КІРАЎНІЦТВАЎ МЯСЦОВАЙ ГАСПАДАРКІ.

Калі мы кажам аб рэорганізацыі Акруговых Аддзелаў Камунальнае Гаспадаркі, то ў некаторых таварышаў можа ўзьнікнуць пытаньне: ці не звярачаемся мы да былых Аддзелаў Дабрабыту, альбо,

як іх пасьля называлі „вермишельным отделам“, якія паказалі сваю поўную няжыцьцёвасьць. Зварачаючыся да нашага проэкту рэорганізацыі, мы бачым, што перад Кіраўніцтвам Мясцовае Гаспадаркі ва ўмовах росту вытворчых сіл краіны, стаяць складныя і шматбаковыя задачы правільнага гаспадарчага скарыстаньня мільёнаў рублёў па розных галінах будаўніцтва, кіраваньне і рэгуляваньне мясцоваю прамысловасьцю.

Разьвіцьце сельскай гаспадаркі, неабходнасьць устанаўленьня больш шчыльных зносін гораду з вёскай патрабуе ўзмацненьня дарожнага будаўніцтва. Адбудаваньне дарог БССР, якое патрабуе вельмі значных затрат, за апошнія гады ідзе досыць інтэнсыўна, напрыклад: у 1925-26 г. на дарожнае будаўніцтва выдаткавана 1.200.000 рублёў, а ў 1926-27 г. дадзена 1.700.000 р.

Мясцовая прамысловасьць, ва ўмовах БССР, павінна адыграць значную ролю ў адносінах інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі і павялічэньні прыбыткаў мясцовага бюджэту.

Ад правільнае організацыі мясцовае прамысловасьці, прыстасаваньня яе да мясцовае сырызны і мясцовага апалу, залежыць разьвіцьцё і ўпарадкаваньне сельскае гаспадаркі і задавальненьне патрэб сялян на прамысловыя тавары.

Пад‘ём матар‘яльнага і культурнага становішча працоўных пашырае патрэбы апошніх на камунальныя паслугі, а ў зьвязку з гэтым высоўваюцца задачы будаўніцтва новых камунальных прадпрыемстваў, а таксама і пашырэньне старых.

Гарадзкі дабрабыт, г. зн. утварэньне максымальных выгад для насяленьня (пабудова маставых, тротуараў, зялёных насаджэньняў, плянаваньня гораду пад забудоўку, пажарная ахова і г. д.) павінен займаць усе больш і больш месца ў дзейнасьці Акруговага Кіраўніцтва Мясцовае Гаспадаркі.

Жыльлёвы крызіс у БССР зьўляецца вялізнай перашкодай у разгортваньні нашае прамысловасьці. Перад Акруговым Кіраўніцтвам Мясцовае Гаспадаркі стаяць задачы захаваньня нашага асноўнага капіталу ў муніцыпалізаваным фондзе, і разьвіцьця таннага жыльлёвага будаўніцтва. На практыцы мы маем выпадкі, калі пабудова дому ў аднэй акрузе каштавала 3.500 рублёў, а ў другой, такі самы дом каштаваў 5.500 р., альбо пабудова школьнага памяшканьня ў аднэй акрузе каштавала 15-20 тысяч рублёў, а ў другой—30-35 тыс. рублеў.

Недахват інжэнэрна-тэхнічных сіл у БССР таксама патрабуе концэнтрацыі будаўнічае справы. Толькі адзіны будаўнічы орган пры Акруговым Выканаўчым Камітэце можа зьнішчыць паказаныя вышэй недахваты, дабіцца лепшай організацыі працы своечасовай падрыхтоўкай будаўнічых матар‘ялаў і рацыянальнага скарыстаньня тэхнічных сіл. Гэты орган павінен у сфэры сваёй дзейнасьці мець ня толькі камунальнае будаўніцтва, але і грамадзкае па лініі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, Народнага Камісарыяту Асьветы і інш., якія за адсутнасьцю практыкі ў гэтай працы, часта скарыстоўваюць сродкі на будаўніцтва ня зусім мэтазгодна.

Зварочваючыся да пытаньня аб організацыйнай структуры, трэба адзначыць, што Акруговыя Кіраўніцтвы Мясцовае Гаспадаркі з‘яўляюцца організацыяй аднароднай, якая ня мае нічога агульнага з унівэрсалізмам былых Аддзелаў Дабрабыту. У Акруговым Кіраўніцтве Мясцовае Гаспадаркі мы маем дакладнае разьмежаваньне функцый паміж асобнымі гаспадарча-будаўнічымі аддзеламі, падагуль-

ваньне практыкі па розных галінах будаўніцтва ў адзіным гаспадарчым органе і прыстасаваньне ўсяго апарату да поўнага абхвату работ у галіне мясцовае гаспадаркі.

Проэкт Палажэньня аб Акруговых Кіраўніцтвах Мясцовае Гаспадаркі і схэма яго пабудаваньня разасланы Акруговым Выканаўчым Камітэтам і Аддзелам Камунальнае Гаспадаркі на заключэньне.

Пытаньне аб рэарганізацыі трэба паставіць на абмеркаваньне Прэзыдыумаў Акруговых Выканаўчых Камітэтаў і Гарадзкіх Саветаў, каб усебакова высьветліць правільнае пабудаваньне гэтага важнага органу.

Шкода, што проэкт некалькі спазьніўся і яго нельга было зацьвердзіць разам з разглядам бюджэту на 1926-27 г. Аднак, акругам трэба ў паказаны Народным Камісарыятам Унутраных Спраў па Кіраўніцтву Камунальнай Гаспадаркі тэрмін даць свае заключэньне, каб хутчэй правесьці гэты проэкт у жыцьце, прыняўшы пад увагу ўнесеныя месцамі папраўкі і зьмены і правільна павесьці работу будаўніцтва і эксплёатацыі гаспадаркі.

**Г. Рубінштэйн.**

---

## 14. Аб дысцыплінарных пакараньнях за службовыя нарушэньні.

(*У парадку абгаварэньня*).

Наша законадаўства аб дысцыплінарных пакараньнях за службовыя праступкі мае, нажаль, шмат дэфэктаў і няяснасьцяй. Па пытаньню аб накладаньні дысцыплінарных пакараньняў у межах БССР існуе 2 пастановы Ураду: 1) Палажэньне аб Дысцыплінарных Судох за 3-га лістапада 1924 г. і 2) Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 10-га ліпеня 1925 г. аб дысцыплінарных пакараньнях, накладаемых на службовых асоб дзяржаўных і прыроўненых да іх установ і прадпрыемстваў. Пэршы закон—Палажэньне аб дысцыплінарных судох—говорыць у пачатку літаральна-наступнае: „В целях борьбы со служебными упущениями, проступками и неправильными действиями лиц, занимающих ответственные должности в государственных органах, е с л и  э т и  д е й с т в и я  н е  п о д л е ж а т  н а к а з а н и ю  в  у г о л о в н о м  п о р я д к е...“.

Тут вынікае пытаньне—а што рабіць з тымі ўчынкамі, якія падлягаюць пакараньню ў адміністрацыйным парадку? Конкрэтны прыклад: член сельскага савету абвінавачваецца ў выганцы самагону; тут у сапраўнасьці маецца нарушэньне па прыметах, прадугледжаных арт. 140 „г“ (г. з. прыцягненьне ў адміністрацыйным парадку), у той-жа час тут маюцца і прыметы дыскрэдытацыі ўлады, што цягне за сабой дысцыплінарную адказнасьць гэтае асобы, згодна пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 10-га ліпеня 1925 г. Праз Акруговы Дысцыплінарны Суд можа быць прыцягнут да адказнасьці толькі Старшыня Сельсавету, яго намесьнік і сэкратар, звычайны-ж член Сельсавету падлягае адказнасьці ў агульна-дысцыплінарным парадку.

Калі прыстасаваць да гэтага члена Сельсавету дысцыплінарнае пакараньне (а ў практыцы, нажаль, такія выпадкі прыстасаваньня вельмі часты, то члену сельскага савету прыдзецца толькі радавацца, бо ў горшым выпадку тут можна толькі выключыць з складу Сельсавету з аб'яўленьнем выговару і то, нават, без апублікаваньня ў друку. Гэту часьць неабходна ўдакладніць для абодвых зазначаных законаў. З практыкі я ведаю, што шмат якім асобам, дзякуючы існаваньню паказанага вышэй парадку, часта ўдаецца пазбавіцца фактычна пакараньня ў той час, як за гэтыя самыя праступкі павінна быць наложана цяжэйшая кара.

Не саўсім удакладнены арт. 5 п. „б“ у адносінах да асоб, якія падсудны акруговаму дысцыплінарнаму суду. Артыкул гэты гаворыць літаральна наступнае: „должностных лиц, избираемых или утверждаемых окружным исполнительным комитетом“. Між тым, акруговым выканаўчым камітэтам, згодна палажэньня, выбіраюцца выключна судзьдзі, якія не падсудны акруговаму дысцыплінарнаму суду (аб чым маецца і спэцыяльная агаворка ў самым палажэньні аб Дысцыплінарных Судох). Што ж тычыцца службовых асоб, „утверждаемых окружным исполнительным комитетом“, то і тут, з прычыны фактычнай адсутнасьці гэтакага дакладнага пераліку службовых асоб, зацьвярджаемых акруговым выканаўчым камітэтам, магчыма шмат тлумачэньняў. Бывае напрыклад, што намесьнік загадчыка аддзелу Акруговага Выканаўчага Камітэту, ня член Выканаўчага Камітэту, праводзіцца, г. з. зацьвярджаецца (трэба разумець) па пратаколу Прэзыдыуму Акруговага Выканаўчага Камітэту, у другіх-жа выпадках праводзіцца толькі загадам па адпаведнаму аддзелу.

Трэба ўстанавіць, ці можа быць гэта асоба прыцягнута да пакараньня праз Акруговы Дысцыплінарны Суд або проста прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасьці загадчыкам аддзелу ў парадку загаду, на аснове пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 10 ліпеня 1925 г. Розьніца вялікая: Акруговы Дысцыплінарны Суд мае права даць параўнальна сур'езную меру пакараньня, у д ы с ц ы п л і н а р н ы м-ж а п а р а д к у можна, у крайнім выпадку, звольніць з выгаварам без аб'яўленьня ў друку.

Далей, маюцца і паасобныя выпадкі, калі Прэзыдыум Акруговага Выканаўчага Камітэту афіцыяльнай сваей пастановай назначае якога-небудзь работніка (ня члена Раённага Выканаўчага Камітэту) напрыклад, на пасаду Заг. Культурнымі справамі аднаго з Раён. Вык. Камітэтаў, у другіх выпадках сам Раён. Вык. Камітэт назначае на гэту пасаду ня члена Вык. Камітэту, ня будучы абавязан рабіць прадстаўленьне Прэзыдыуму Акруговага Выканаўчага Камітэту аб зацьверджаньні на пасадзе гэтага работніка. Ізноў тут няясна, ці падлягае загадчык Культурнымі справамі, назначаны на гэту пасаду Прэзыдыумам Акруговага Выканаўчага Камітэту, адказнасьці праз Акруговы Дысцыплінарны Суд,

Калі пад п. „б“ арт. 5 разумець цэлы пэўны шэраг асоб, то ўсе-ж трэба зазначыць, што нідзе точна не прадугледжана, якая катэгорыя асоб падлягае зацьверджаньню Прэзыдыумам Акруговых Выканаўчых Камітэтаў і якая не падлягае.

Па разьдзелу 5-му арт. 18 па пытаньню аб мерах пакараньняў, якія накладаюцца дысцыплінарнымі судамі, няясен п. „ж“, які гаворыць: „возложение обязательства загладить“... Выходзіць, такім чынам, што акруговым дысцыплінарным судом прысвоены і грамадзкія функ-

цыі. Але тут невядома, якім практычным спосабам можна апошняе зрабіць: як вызначае дысцыплінарны суд размер страт?, Далей, якім спосабам гарантыруецца ўстанове спагнаньне страт, паскольки дысцыплінарны суд наўрад ці мае права выдаць выканаўчы ліст?.

Усе паказаныя моманты патрабуюць большой яснасьці, а таксама і некаторай дэталізацыі. Надта вялікі разрыў існуе паміж мерамі пакараньня, накладаемымі акруговым дысцыплінарным судом, і пакараньнямі, якія накладаюцца ў звычайным дысцыплінарным парадку. У апошнім выпадку фактычна меры пакараньня рэдка дасягаюць мэты, бо самым большым пакараньнем тут зьяўляецца звальненьне. Спэца звальненьне бязумоўна ня спужае: сягоньня яго звольнілі ў адным аддзеле, а заўтра ён ужо працуе ў суседнім.

Кепска, што ў гэтым выпадку па пастанове за 10-га ліпеня 1925 г. не прадугледжаны, як пакараньне, выгавар з аб'яўленьнем у друку. Гэта было-б вельмі важна. Ці не зьяўляецца дзіўным таксама, што сэкратар сельсавету, нават ня член сельсавету, караецца акруговым дысцыплінарным судом у той час, як сэкратар Раённага Выканаўчага Камітэту, ня член гэтага Камітэту, у выпадку такога-ж праступку пад дзейнасьць акруговага дысцыпл. суду не падпадае і можа такім чынам панесьці параўнальна лёгкае пакараньне ў агульна—дысцыплінарным парадку. Існуе затым цэлая катэгорыя асоб, маючая дужа важнае значэньне ў нашым савецкім будаўніцтве, якая зусім фактычна не падпадае пад дзейнасьць ні дысцыплінарнага суду ні пад пакараньне ў агульна-дысцыплінарным парадку, напрыклад, члены сельскіх саветаў, старшыні і члены сельскіх (а то і раённых) Камітэтаў грамадзкай узаемадапамогі. На практыцы прыходзіцца часта на гэтых асоб накладаць пакараньні за нядбайныя адносіны да службы. Адно, што можна да іх прыстасоўваць—гэта выгавар без апублікаваньня ў друку. Такі від пакараньня, бязумоўна, не дасягне мэты, а часам выклікае нават насьмешкі. Між тым трэба зазначыць, што такога роду праступкі цягнуць за собой даволі сур'ёзныя вынікі, а на практыцы сьледчыя і судовыя органы накіроўваюць усе гэтыя справы для прыцягненьня ў дысцыплінарным парадку праз Прэзыдыум Акруговага Выканаўчага Камітэту, якому прыходзіцца перасылаць гэтыя справы Раённаму Выканаўчаму Камітэту, апошняму-ж прыходзіцца абмяжоўвацца толькі адным выгаварам, якога ён ня можа нават апублікаваць у друку.

Адпаведным органам трэба пераглядзець палажэньні аб дысцыплінарных пакараньнях і ўнесьці ў іх неабходныя папраўкі.

**С. Лібман.**

23 кастрычніка 1926 г.
г. Бабруйск.

---

## 15. Яшчэ да проэкту Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.

(*У парадку абгаварэньня*).

У Бюлетэні СНК БССР № 11 (20) за 1926 г. зьмешчаны ў парадку абагаварэньня артыкул т. Д. Гарцмана „Да проэкту Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы".

Не гаворачы аб усім артыкуле, я хачу сказаць толькі адносна пытаньня аб адказнасьці сялянскага двара, па „алімэнтных даўгох“, як гаворыць т. Гарцман, паасобных членаў гэтага двара.

Тав. Гарцман выказвае правільны погляд, адзначаючы, што ў Проэкце Кодэксу няма адказу на тое, ці павінен двор несьці адказнасьць за свайго члена па „алімэнтных даўгох“, калі ў апошняга (члена двара) ня маецца асабістых сродкаў на ўтрыманьне дзіцяці, якое радзілася ўсёроўна ў рэгістраваным або ў нерэгістраваным шлюбе. Але няправільна, калі, грунтуючыся на абежніку НКЮ РСФСР за 28 ліпеня 1923 г. і НКЮ БССР за 13 жніўня 1924 г. т. Гарцман гаворыць, што наша Беларускае законадаўства забараняе рабіць сыскваньне з маемасьці сялянскага двара за даўгі паасобных яго членаў, якія (даўгі) ўзьнікаюць з яго асабістых або маемасных адносін, і ў дужках дадае „а, значыць, і па сыскваньнях на ўтрыманьне дзяцей. Д. Г.“ і што гэтыя сыскваньні як-бы павінны абмяжоўвацца толькі належачай члену двара часткай у агульнай гаспадарцы. Мне здаецца, у гэтым пытаньні ня можа быць двух тлумачэньняў законадаўстваў, як Беларускага, так і РСФСР-га, бо паняцьці аб „алімэнтных даўгох“ аднолькавы як у нас у БССР, так і ў РСФСР. Для гэтага трэба вырашыць пытаньне аб „алімэнтным доўгу“ у тым сэнсе, ці будзе лічыцца „алімэнтны доўг“ доўгам прыватнага характару, як узьнікшы з асабістых або маемасных адносін члена двара, або гэта будзе доўг, ці правільней—абавязак, публічнага характару? Бязумоўна, гэта будзе абавязак публічнага характару і доўгам прыватнага характару яго ніяк нельга назваць.

Далей, раўняючы тлумачэньні абежнікаў Народных Камісарыятаў Юстыцыі РСФСР і БССР па гэтым пытаньні, няма ніякае падставы думаць, што ў нас у БССР ў адрозьніваньне ад РСФСР, сыскваньні па „алімэнтных даўгох“ абмяжоўваюцца толькі належачай члену двара, які павінен утрымоўваць дзіця, часткай у агульнай гаспадарцы. Тав. Гарцман няўпэўнен у гэтым, а толькі думае, што гэта так, а ня іначай, калі ўстаўляе словы ў дужках: „ а, значыць, і па сыскваньнях на ўтрыманьне дзяцей“.

Цікава, як па погляду т. Гарцмана рабіць сыскваньне „алімэнтнага доўгу“ з долі члена двара? Ён гаворыць, што сыскваньне павінна рабіцца з тае долі члена двара, якая належыць яму па падзелу, паводле 81 арт. Зям. Кодэксу. Ну, а калі ён, член двара, не падзелен і ня хоча дзяліцца, як у гэтым выпадку суд павінен зрабіць? Тав. Гарцман можа сказаць, што суд абавязан выдзеліць яго долю з агульнае маемасьці і тагды з гэтае долі сыскваць. На гэта тав. Гарцману трэба паказаць, што такое рашэньне будзе аснована не на просьбе старон і, апрача таго, пазбавіць члена двара, без яго просьбы і жаданьня, права быць членам данага двара, чаго бязумоўна наш закон не дапушчае.

Апрача таго, калі стаць на пункт погляду тав. Гарцмана, то дзяржаве прыдзецца прыняць на ўтрыманьне значную колькасьць дзяцей, чаго ў гэты час яна зрабіць ня можа. Вёска ня так яшчэ моцна экономічна каб у кожнага бацькі дзіцяці было даволі асабістых сродкаў на ўтрыманьне апошняга і таму, калі не рабіць сыскваньня з агульнае маемасьці двара, то права жанчыны застаецца толькі на паперы.

Я лічу, што Народнаму Камісарыяту Юстыцыі трэба вырашыць гэту спрэчку выданьнем адпаведнага абежніка, бо на мясцох пры вырашэньні справ аб аліментах у Народных Судох наглядаецца няўзгодненасьць, і ў Проэкт Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апэцы трэба ўнесьці адпаведны артыкул або ўвагу.

**Н. Падтыкала.**

28 кастрычніка 1926 г.
м. Крычаў.

---

## 16. Вынікі працы Камісій пры Сельсаветах.

*(Чавускі раён Магілеўскае акругі).*

Для большага ўцягненьня сялянскага насяленьня ў нашае савецкае будаўніцтва, г. з. практычнае ўцягненьне яго ў штодзенную працу сельсаветаў—былі організаваны пры ўсіх сельсаветах камісіі. Прымаючы пад увагу вялікае значэньне гэтых камісій у галіне ўцягненьня насяленьня ў будаўніцтва, Чавускі Раённы Выканаўчы Камітэт падагуліў працу камісій пры сельсаветах усяго раёну. Вынікі паказваюць, што камісіі працавалі слаба, а ў 6 сельсаветах камісіі зусім не працавалі. Гэта тлумачыцца наступнымі прычынамі: а) слабым кіраўніцтвам камісіямі з боку сельсавету, а некаторыя сельсаветы зусім не кіравалі імі, б) незацікаўленасьцю саміх членаў сельсаветаў і членаў камісій, в) бясплянавасьцю ў працы камісій.

З усіх камісій лепш працавалі сельска-гаспадарчыя і культурна-асьветныя камісіі, прычым усіх пасяджэньняў камісій было (па 14 сельсаветах): сельска-гаспадар. камісій (па ўсяму раёну)—18, культурна-асьветных—20; камісій дабрабыту—7, коопэрацыйных—8, грашова-падатковых—5 і тэр. будаўніцтва (вайсковых)—6. Лепш камісіі працавалі ў Жаліўскім і Радамльскім сельсаветах. Трэба адзначыць адсутнасьць плянавай сувязі сельсаветаў з камісіямі, былі такія выпадкі, калі камісіі працавалі самастойна і незалежна ад сельсаветаў, у той час, калі апошнія павінны былі кіраваць усёй працай камісій; не заслухоўваліся даклады камісій на Прэзыдыумах і Пленумах сельсаветаў і, наогул, заўважвалася слабае кіраўніцтва. Тое, што ў некаторых сельсаветах камісіі зусім не працавалі, тлумачыцца тым, што сельсаветы ня выявілі належнай ініцыятывы. Напрыклад: ёсьць такія сельсаветы, у якіх шмат актыўных і культурных сіл, але сельсаветы не праявілі ініцыятывы.

Усяго сялян уцягнута ў камісіі па раёну мужчын--415 і жанчын--28. Гэтыя лічбы гавораць толькі аб колькасьці, а не аб якасьці складу камісій.

На пытаньне, ці зьяўляюцца камісіі дапаможнымі ў працы с/с, ці палепшылася праца с/с. з утварэньнем камісій і ці ўзрасла актыўнасьць сялянства ў галіне яго большага ўдзелу ў савецкім будаўніцтве, то большая частка сельсаветаў гаворыць, што не, але некаторыя сельсаветы паказваюць, што праца сельсавету з утварэньнем камісій палепшылася. Трэба адзначыць, што першы адказ няправіль-

ны і тлумачыцца дрэнным кіраўніцтвам сельсаветаў камісіямі, якія не даацэньваюць ролі камісій у савецкім будаўніцтве, як напрыклад: Прылескі сельсавет паведамляе, што камісіі не дапамагаюць, а перашкаджаюць у працы сельсаветаў.

Цяпер трэба спыніцца на практычнай рабоце камісій. Галоўная праца камісій (там дзе яны працавалі) рабілася ў галіне правядзеньня пасяўных кампаній, сельска-гаспадарчага вучоту, працы ў хатах-чытальнях, арганізацыі гурткоў „Прэч няпісьменнасьць“, рамонту дарог і мастоў, правядзеньня коопэрацыйных кампаній, правядзеньня вучоту аб'ектаў абкладаньня і г. д. У паасобку трэба адзначыць значную работу, праведзеную Жэліўскім, Радамльскім, Благавіцкім і інш. сельсаветамі.

Партыйцы і камсамольцы ў рабоце камісій прымалі слабы ўдзел, а лепш працавалі настаўнікі, якія былі старшынямі камісій і наогул цікавіліся іх працай (настаўнік Жэліўскага с-савету тав. Шышкалаў).

Падагуліўшы працу Камісій, Раённы Выканаўчы Камітэт распрацаваў практычныя мерапрыемствы і на падставе вынікаў іх працы і даў дырэктывы сельсаветам аб ажыцьцяўленьні працы камісій.

**Я. Збуржынскі.**

25 кастрычныка 1925 г.
г. Чавусы,
Раённы Выканаўчы Камітэт.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**